ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 36 (1686) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 4 ВЕРАСНЯ 1988 г. ЦАНА 20 зл.

## ПАСЛЯ ШАСЦІ ГАДОЎ ПАБУДОВЫ



Нядаўна завяршыўся чарговы этап у пабудове вялікай Святадухаўскай царквы ў Беластоку. Пасля шасці гадоў пабудовы, 30 мая 1988 года, ў дзень Святога Духа, адбылося ўрачыстае **асвяшчэнне ніжняй царквы.** Народу накапілася тут столькі, што ўсе ўдзельнікі ўрачыстасці не змаглі змясціцца ў прасторнай царкве, у якой свабодна змяшчаецца больш тысячы чалавек.

Урачыстую літургію з гэтай нагоды адслужыў архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі **Сава** ў суправаджэнні шматлікіх святароў з гэтай жа архіепархіі.

Найбольш, аднак, хваляваліся два чалавекі: пачынальнік пабудовы гэтага велізарнага храма айцец **Серафім Жалезняковіч** і яго першы памочнік ды фактычны будаўнік і адначасова настаяцель Святадухаўскага прыхода айцец **Георгій Барэчка.**

— Першая багаслужба, яшчэ ў нявысвяшчанай ніжняй царкве, — гаворыць айцец Георгій, — адбылася ў ражджэственскую ноч, 7 студзеня 1988 года. Да таго часу мы шмат што паспелі зрабіць: нашы сталяры ва ўласнай прыцаркоўнай майстэрні выканалі іканастас, пакладзена была падлога з тэракоты і шмат іншых рэчаў. Мы цешыліся, што супольнымі намаганнямі ўдалося нам зрабіць даволі многа. Гэта тады наш уладыка архіепіскап Сава выказаў спадзяванні, што ўступнае асвяшчэнне Святадухаўскай царквы ў Беластоку адбудзецца ў дзень Святога Духа ды адначасова ў гонар вялікага юбілею праваслаўя — **тысячагоддзя** хрышчэння Русі.

І айцец Георгій упэўнена адказаў свайму ўладыку, што ён і народ праваслаўны яго не падвядуць. Ды слова сталася целам. 30 мая адбылося асвяшчэнне ніжняй царквы. У першую чаргу, гэта — дзякуючы пастаяннай ахвярнасці праваслаўнай грамадскасці ў Беластоку, у Польшчы і на свеце. Для прыкладу, галоўнае **панікадзіла** (вялікі жырандоль) для ніжняй царквы ахвяравала жыхарка Беластока **Марыя Гавельчык.** На два іншыя панікадзілы, меншыя па размерах, скláліся **Лідзія Літвінаў з Васілём Балешуком і Ніна Андрэйчук з Анатолем Куткевічам.**

Падобныя шчодрыя ахвяраванні здараюцца тут даволі часта. 16 прыхаджан Святадухаўскага прыхода склаліся на абсталяванне іканастаса ў ніжняй царкоўцы. Усе прозвішчы шчодрых ахвяравальнікаў будуць увекавечаны на спецыяльных металічных таблічках, замацаваных на прадметах, на пакупку якіх прызначаюцца іх ахвяраванні.



Гэты велізарны храм, пабудова якога на Антонюку ў Беластоку вядзецца ўжо шосты год

(Працяг на стар. 6)

## ВЫРАШЭННЕ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ПЫТАННЯ Ў БЕЛАРУСІ: РЭВАЛЮЦЫЯ І КОНТРРЭВАЛЮЦЫЯ

**(Перадрук са „Звязды“ № 174 ад 29 ліпеня 1988 г.)**

У апошні час шмат слушнай крытыкі было выказана ў адрас беларускіх гісторыкаў. Рэагаваннем на яго з'яўляецца змяненне тэматыкі ў планах гістарычных даследаванняў, пошукі новых матэрыялаў і дакументаў у архівах, больш уважлівыя адносіны вучоных да ачалавечвання гісторыі, да шырокага і глыбокага аналізу ўдзелу беларускіх дзеячоў у тых ці іншых падзеях. Актывізавалася і такая форма развіцця творчай думкі гісторыкаў як арганізацыя „круглых сталоў“. Падрыхтоўку і правядзенне іх узяў на сябе каардынацыйны камітэт па праблемах гісторыі БССР і Кампартыі Беларусі, у састаў якога ўвайшлі вядучыя вучоныя Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна, Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, інстытутаў гісторыі, філасофіі і права, мастацтвазнаўства і іншых інстытутаў АН БССР.

На адным з такіх „круглых сталоў“, які адбыўся на гістарычным факультэце БДУ імя У. І. Леніна, **былі разгледжаны найбольш складаныя і актуальныя праблемы вырашэння нацыянальнага пытання ў Беларусі ў першы паслякастрычніцкі перыяд.**

Адкрыў пасяджэнне „круглага стала“ дэкан гістарычнага факультэта БДУ імя У. І. Леніна, доктар гістарычных навук, прафесар Э. М. Загарульскі.

*

**М. СТАШКЕВІЧ, загадчык сектара інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, кандыдат гістарычных навук.** Праблема беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, мне здаецца вельмі складаная. Таму пачну іменна з яе. Зыходзячы з ленінскай метадалогіі, мы лічым, што ў беларускім нацыянальна-вызваленчым, як і ва ўсякім руху, былі два патокі. Адзін — ліберальна-буржуазны, яго яшчэ называюць буржуазна-нацыяналістычны. Асноўны яго носьбіт — кулацтва, у нейкай ступені капіталізаваныя памешчыкі, буржуазная інтэлігенцыя, чыноўнікі, шляхта. Другі паток — рэвалюцыйна-дэмакратычны, класавай асновай якога з'яўляліся рабочыя, сяляне, народная інтэлігенцыя.

Вядома, да звяржэння самадзяржаўя гэтыя два патокі не былі дакладна размежаванымі. Яны адыгрывалі радыкальную ролю, бо вялі барацьбу супраць самадзяржаўя, за тое, каб была створана беларуская нацыянальная дзяржаўнасць, за развіццё нацыянальнай мовы, культуры і г.д. Сярод пэўнай часткі зарубежных апанентаў, прыхільнікі якіх ёсць у Мінску, бытуе думка, што ніякіх двух патокаў у беларускім нацыянальна-вызваленчым руху наогул не было. Сцвярджаецца, што беларускі нацыянальна-вызваленчы рух складваўся з нацыянальнай дэмакратыі і ні класава, ні палітычна не быў дыферэнцыраваным. Думаю, што з такой пастаноўкай пытання пагадзіцца нельга. Рэвалюцыя высветліла класавы састаў нацыянальна-вызваленчага руху. Яго буржуазна-нацыяналістычны паток, да якога прымкнула і правае крыло Беларускай сацыялістычнай грамады, пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі, злучыўшыся з расійскай контррэвалюцыяй ва ўмовах нямецкай акупацыі, спрабуе праклямаваць так званую Беларускую Народную Рэспубліку (БНР).

Рэвалюцыйна-дэмакратычны паток, выражаючы галоўным чынам дэмакратычныя імкненні сялян, аб'ядноўваюцца ў рэвалюцыйнай барацьбе пралетарыяту за ўстанаўленне і ўмацаванне Савецкай улады, што ў канчат-

(Працяг на стар. 6)

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 351

## НАВЕДАННЕ

Мне надарылася магчымасць пасладь да д'ябла дурату справаў і акунуцца ў безгалоссе зазімку ў нашых лясах. Шчасліва паслухаўся прыяцеля, які жыве на глухой станцыі пад Каралёвым Стойлам. Адзін з тых мастакоў-адзінотнікаў, чые палотны трапляюць потым у галерэю Эдуарда Торпа ў Нью-Йорку.

У дапатопным вагоне з пабітымі вокнамі ды паламанымі дзвярыма праняў мяне холад і я — даехаўшы — вітаў гарачую вячэру на стале з напаленай печкаю за маёй спіною. Ён участаваў дзічынаю з грыбамі і ажынаю; былі мянтузы і настойка з выспелай шыпшыны. І вялікі голад інтэлігентнай гутаркі.

Амаль усёй дамок займала ягоная майстроўня. Мы чамусьці спяшаліся выказацца, перабіваючы адзін аднаму. Пазацікалі, быццам сцяміўшы, урэшце рэшт, што ніхто нас не паганяе і нікуды нам не трэба. Карціны, ім намаляваныя, не прыйшліся мне даспадобы. Я іх нават не разумеў, але яны прыцягвалі мяне нейкім, дагэтуль нязведаным, смуткам, ад якога лепей ісці прэч, куды вочы панясуць.

Была і праходка поначы, пабялелым гасцінцам і ў зорнасць. Узялі з сабою маўклівага, бы цень, аўчарыка, прывучанага не рэагаваць на небеларускія воклічы...

— У якое тысячагоддзе чалавек ачалавечыцца?.. Безнадзейны гэты хітрунец: з Хрыста зрабіў свайго фраера, даверлівага Спаса, якога бязбоязна ашукоўвае і бессаромна просіць штораз у яго прабачэння. Маральны бізнес з Богам...

Ад невыноснае маркоты мы загаварылі пра іншае, але настолькі вымушана, што ажно без сэнсу.

— Трэба так жыць, як жыццё бяжыць, — казаў я, усё роўна што дзеля парагунку. Маючы прытым нахабнасць глядзець яму ў твар папоцемку.

...Пасля гэтага выезду прыбыўся быў да мяне сон, нібыта стаю я над пропасцяй у чужых горах і мярцвею ад жаху! Пакінуў з'яўлядца неяк пад Новы год, у вэрхал справаздачнай акцыі.

**Сакрат Яновіч**

**Міхась Мельнік**

## НА БУДУЧАЕ

*Я хачу пайтарыцца*
*у сваім нашчадку,*
*які будзе жыць*
*на Законах Чалавечнасці,*
*які*
*не будзе ведаць*
*зла*
*і зявагі,*
*які будзе поўны*
*святое прагі*
*да вернасці нашай,*
*да нашай вечнасці.*
*Я хачу пайтарыцца*
*ў сваім наследніку,*
*які праклляне*
*тых папярэднікаў,*
*што згубай калісь*
*яму пагражалі,*
*што зброяй, як цацкай,*
*сябе забаўлялі*
*і дружбе*
*праходу*
*ніяк не давалі...*
*Я хачу пайтарыцца*
*ў сваім патомку,*
*які пабудуе светлую яву,*
*пазбаўленую трывог*
*і разладу,*
*які будзе цешыцца*
*мірным світаннем,*
*які не будзе плявадь*
*у твар зямлі,*
*што дала*
*яму*
*існаванне.*

**Віктар Швед**

## ПАМЯЦІ АЛЕСЯ ГАРУНА

Волі жадаў сваёй айчыне,
Калі шалеў вайны віхор.
І нечакана на чужыне
Змаганнем змучаны памёр.

Гасцінны старажытны Кракаў
Прыняў цябе — паэт-змагар.
Ты спіш адзін сярод палякаў
З нядзейсненых цяжарам мар.

Магіла знойдзена ў стагоддзе
Прыходу ў неспакойны свет.
І жыць ты будзеш у народзе,
Ты несмяротны, наш паэт!

Ты з небыцця да нас вярнуўся,
Цяжкі твой і па смерці лёс.
Уваскрасаеш ў Беларусі
Раскрыжаваны як Хрыстос.

**Данута Бічэль-Загнетава**

## ВЕРА

Захавай, Белавежская пушча,
Кастуся Каліноўскага сцежкі.
Дзікі звер каранёў
не раструшчыў.
Родных ліпаў надзейныя
стрэшкі.

Родным словам жыццё
адзавецца.
І прачнецца народ наш
відушчы.
Кастуся несмяротнае сэрца
моцна тахкае ў пошуме пушчы.

Чарадзейнай валодаюць сілай
слёзы зёлак тутэйшага поля.
Над вялікага сына магілай
узыдзі, наша зорная доля!

З забыцця — незабыту сумежжа
заіржалі і дыбіцца коні.
Ад паўстання за нас Белавежа
не злажыла паўстанцкай Пагоні.

**Віктар Варашыльскі**

## ФРАНЦ КАФКА (I)

Калі Франц Кафка пісаў свае гісторыі не з'яўляліся яны
люстрам рэчаіснасці Нарадзіўся і жыў
у найчалавечнейшай сярод тыраніяў калі ж завалілася ў найпрыстойнейшай сярод буржуазных дэмакратыяў Еўропы У свеце
настолькі непадатлівым Апакаліпсе што захоплены
ёю пераставаў дзівіцца У горадзе дзе дагэтуль
можна адшукаць сляды кожнага што тут жыў
да Апакаліпсы Таксама
Франца Кафкі Вось
дом у якім нарадзіўся Сюдою служанка
праводзіла яго ў школу палохаючы Тут
працаваў у страхавальным таварыстве і не адважыўся
звольніцца на два дні каб паехаць
сустрэць каханую Гэта
фамільная магільня Кафкаў Дамы стаяць
усе толькі з некаторых
сыплецца тынк Жыхары
паказваюць таксама стары калодзеж які апісаў
у адным з першых апавяданняў і нутро касцёла
з аповесці Але
калі б у гэтым што пісаў дашукоўвацца вобразу
свету ў якім жыў было б гэта
крыўдай і пачціва свет гэты меў бы права
пачуцца абражаным бо ж не быў
такім Быў
святлейшым і працейшым На шчасце
Кафку пачалі чытаць шмат пазней
калі цела свету
у кожнае слова ягонае выдуманае ўслізгоўвалася адрабляючы
запоэненасць і галосячы ад болю.

## ФРАНЦ КАФКА (II)

Франц Кафка заўсёды жадаў
давяраць і прыдаваць бадзёрасці Сярод
кніжак якія найбольш ахвотна пачытваў знаходзіліся
апавяданні Бажэны Нямцовай Часта
вяртаўся да іх удыхваючы
цяпло якім поўніліся і жадаючы
прыпадобніцца на добрую старую што раздае
людзям хлеб Калісьці
прачытаў яе гэрой пад загалоўкам у замку
і прызамчы і зрабіла гэта на ім
такое ўражанне што не мог
пазбыцца ахвоты пераймання Пісаў
доўга і ўсё меў надзею што ўдасца яму
стварыць нешта гэтак жа сонечнае з гэтак жа
памысным канцом аднак жа
не ўдалося яму і вельмі пакутваў і хацеў
спаліць тое што напісаў.

## УЛАДЗІСЛАЎ БРАНЕЎСКІ

Пад канец яму не хапала дыхання
Не ў вершы У лёгкіх Вершы
дыхалі глыбока яшчэ ў той бальніцы дзе
мноства людзей і куды я
пераносіў яму гарэлку Сядзеў
пры ім яго сябра суровы і
не пахваляў Заўсёды
меў сяброў суровых якія
вучылі яго паэзіі палітыкі маралі Адзін
Лэпэк сэтэр прымаў
яго без карэкты

Гэта было жыццё
неразважлівае карты гарэлка паэзіі
тэлефоны начамі шчырасць з жылаў Быў я
адным з тых каго будзіў
дыханне на лініі Слухай
слухай цяпер скажу табе Гэта
не было важнае каго
будзіў Важнай
з'яўлялася ноч трубка неабходнасць Цяпер
слухай скажу Дыханне якога
не ўмеў я не ўмелі мы пэўна досыць добра
слухаць аж раптам
Адгэтуль думаю Ён
ёсць недзе поначы Яго
дыханне ў цемры і якойсь
ноччу зазвініць
тэлефон Свет
схопіць за трубку чорную.

*Пераклаў з польскай — Сакрат Яновіч*

# ПАСЛЯ ШАСЦІ ГАДОЎ ПАБУДОВЫ

(Працяг са стар. 1)

цаглінка па цаглінцы, вырас дзякуючы ахвярнасці людзей. Найлепшыя памочнікі айца Георгія не прамінулі ні адной нагоды, ні аднаго зборышча веруючых, каб не прасіць у іх добраахвотных ахвяраванняў на сваю царкву, а ў Святадухаўскім прыходзе дык усе сем'і рашылі проста ападаткавацца дзеля гэтай справы.

— Апрача ўсяго гэтага, — адзначае айцец Георгій, — завёўся ў нас ужо гэткі звычай, што кожны прыхаджанін раз у тыдзень, найчасцей у свабодную суботу, працуе пры пабудове царквы, дапамагаючы спецыялістам.

Да 1986 года падрадчыкам на пабудове царквы быў адзін прыватны рамеснік. Яму, аднак, захацелася яшчэ болей разбагацець у Амерыцы. Тады прыход, як прававы інвестар, усё пераняў на сябе. І кошты пабудовы знізіліся на 40 працэнтаў. Адным словам, айцец Георгій дакладна прыглядаецца да кожнай залатоўкі ці долара, пакуль пусціць іх у расход.

— Маю зараз адзін вялікі клопат, — прызнаецца мне. — Патрэбна нам вялікая колькасць меднай бляхі, каб да зімы закончыць пакрыццё даху. Гэтую бляху абяцаюць нам у 1989 годзе, а яна неабходная ўжо зараз. Вось і шукаю кагосьці спагадлівага, каб нам проста пазычыў.

І гэта толькі дробязны прыклад з галіны шматлікіх спраў, праблем і турбот, якія даводзіцца кожны дзень пераадольваць будаўнікам Святадухаўскай царквы. Перашкоды паяўляюцца з цалкам неспадзяванага боку. Двойчы ўжо давялося мець справу з агнём. У абодвух выпадках было гэта звычайнае злачынства. Найперш нехта падпаліў каштоўны дубовы матэрыял, зложаны на могільніку на Выгодзе для прасушкі і прызначаны на царкоўную сталярку. Затым хтосьці закінуў агонь у пустыя сцены верхняй Святадухаўскай царквы... На шчасце, у абодвух выпадках супрацьпажарная стража задушыла агонь у зародку. Толькі абпаленыя дубовыя броўны і абкопчаныя сцены над харамі ў царкве сведчаць аб намерах злачынцаў...

— Кажуць, што вялікую дапамогу атрымоўваеце вы ад замежнікаў? — звярнуўся я да айца Георгія.

— Пярэчыць не буду, што дапамога з-за мяжы паступае для нас даволі сістэматычна, — адказаў святар. — Гэта ў асноўным заслуга старшыні камітэта пабудовы Святадухаўскай царквы айца Серафіма Жалезняковіча. Ён змог наладзіць кантакты з замежнымі праваслаўнымі царкоўнымі цэнтрамі і з паасобнымі нашымі суродзічамі. Мы ж будуем храм Божы на славу ўсяго праваслаўя. І гэта людзі



*30 мая 1988 г. Архіепіскап Сава вядзе ўрачыстае набажэнства з нагоды асвяшчэння ніжняй царквы Святадухаўскага храма ў Беластоку.*

# ВЫРАШЭННЕ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ПЫТАННЯ Ў БЕЛАРУСІ: РЭВАЛЮЦЫЯ І КОНТРРЭВАЛЮЦЫЯ

(Працяг са стар. 1)

ковым выніку расшырыла яго сацыяльна-класавую аснову, на якой пачыналася будаўніцтва савецкай нацыянальнай дзяржаўнасці беларускага народа, і прывяло да стварэння Беларускай Савецкай Рэспублікі.

Каб не быць галаслоўным, прывяду словы Аляксандра Рыгоравіча Чарвякова, які сам быў удзельнікам беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, а потым правільна, з класавых пазіцый даваў яму ацэнку. У прыватнасці (часопіс „Полымя", № 10, 1928 г.) ён так яго характарызуе:

*„У час Кастрычніцкай рэвалюцыі канчаткова высвятляліся пазіцыі ўсіх прамежкавых груп. Перад беларускім нацыянальна-вызваленчым рухам Кастрычніцкая рэвалюцыя паставіла пытанне, якім шляхам ісці далей: Саветы ці рада? Усе беларускія нацыянальныя арганізацыі пайшлі супраць Саветаў. Цішка Гартны пайшоў разам з Саветамі, зразумеўшы, што сапраўдныя інтарэсы працоўных Беларусі мог здагадзіць толькі шлях Кастрычніцкай рэвалюцыі... Люты — сакавік 1918 года афармілі палітычную палярызацыю беларускага руху. З аднаго боку, дзеля паглыблення рэвалюцыі збірала нацыянальна-рэвалюцыйныя сілы Беларусі Кампартыя, а з другога — на тэрыторыі акупіраванай Беларусі была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка і паслана прывітальная тэлеграма германскаму кайзеру з просьбай аб дапамозе ў змаганні супраць сацыялістычнай рэвалюцыі".*

Чарвякоў падкрэслівае класавы характар БНР, гаворыць пра яе як пра буржуазнае дзяржаўнае ўтварэнне. Далей ён піша:

*„Такім чынам стварыліся два цэнтры беларускага руху: рэвалюцыйны і контррэвалюцыйны, паміж якімі пачалася бязлітасная барацьба. Асабліва беларуская контррэвалюцыя навалілася на Цішку Гартнага, якога абвінавацілі ў здрадзе беларускай справе, у прадажнасці бальшавікам і правакацыі".*

Доўгі час у гістарычнай навуцы панаваў сталінскі шаблон у ацэнцы нацыянальна-вызваленчай барацьбы прыгнечаных народаў Расіі. Няправільна характарызаваўся і беларускі нацыянальна-вызваленчы рух. У публікацыях 30-х гадоў, ды і ў пасляваенны перыяд, сцвярджалася, што па свайму класаваму зместу ён з'яўляўся буржуазна-нацыяналістычным, адмаўлялася наяўнасць у ім рэвалюцыйна-дэмакратычнага патоку. А гэта прывяло да таго, што ў гістарычнай навуцы не паказвалася ўзаемадзеянне і зліццё рэвалюцыйна-дэмакратычнага патоку беларускага нацыянальнага руху з барацьбой рабочага класа і бяднейшага сялянства за ўстанаўленне Савецкай улады ў Беларусі, няправільна раскрывалася сацыяльна-класавая аснова савецкай нацыянальнай дзяржаўнасці беларускага народа. А гэта, зразумела, адбівалася на ацэнцы рэвалюцыйнай дзейнасці А. Р. Чарвякова, Д. Ф. Жылуновіча, І. В. Лагуна і іншых, якія выйшлі з рэвалюцыйна-дэмакратычнага крыла нацыянальна-вызваленчага руху. Ім часта неабгрунтавана прыпісваліся нацыянальныя памкненні і тэндэнцыі.

Якія ж палітычныя арганізацыі сталі на рэвалюцыйна-дэмакратычных пазіцыях? Магу дакладна сказаць: левае крыло Беларускай сацыялістычнай грамады, Беларуская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя, розныя палітычныя арганізацыі левага кірунку, якія ўзніклі сярод беларусаў-бежанцаў. Кастрычніцкая рэвалюцыя, абвясціўшы палітычную і юрыдычную роўнасць усіх нацый і народаў, пачала вырашэнне тых задач, якія былі пастаўлены нацыянальна-вызваленчым рухам. Вырашаліся яны, праўда, у цяжкай і нялёгкай абстаноўцы грамадзянскай вайны.

Усе беларускія палітычныя партыі, пачынаючы ад рэлігійна-клерыкальных, ліберальна-буржуазных, і канчаючы дробнабуржуазнымі, якія былі аб'яднаны ў Беларускую раду, створаную яшчэ пры Керанскім, выступілі супраць сацыялістычнай рэвалюцыі. Яны разгарнулі барацьбу супраць Савецкай улады пад флагам „нацыянальнага самавызначэння", які прыкрываў на самай справе буржуазны сепаратызм. На гэтай аснове і была абвешчана БНР.

У мяне ёсць дакумент, які захоўваецца ў партархіве інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ. Гэта пастанова Часовага беларускага ўрада. Вось што сказана ў гэтым дакуменце: *„Усе дэкрэты ўрада Леніна, а таксама былых Народных камісараў Заходняй вобласці і фронта прызнаць для Беларусі несапраўднымі. Аж да ўстанаўлення законаў Беларускай Народнай Рэспублікі ўсім установам і ўрадавым устанаўленням карыстацца законамі былога Часовага ўрада Расійскай рэспублікі і рабіць свае акты ад імя Часовага беларускага ўрада".* Пастанова прынята радай БНР 12 ліпеня 1918 года і падпісана старшынёй „Народнага сакратарыята БНР І. Варанко".

З улікам гэтага і трэба ацэньваць дзейнасць Лёсіка, Ластоўскага, Езавітава, Луцкевіча, Некрашэвіча, Варанко, Грыба і іншых прадстаўнікоў з лагера палітычных праціўнікаў бальшавікоў.

*Рэпліка.* Вы сказалі — два процілеглыя лагеры. У шырокім сэнсе гэтага слова правільна. Рэвалюцыя і контррэвалюцыя. Але былі і прамежкавыя сілы, прамежкавыя плыні: нейтралы, тыя, хто сумняваўся...

М. Сташкевіч. Рэвалюцыйнай партыяй, якая абараня-

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


Ніл Гілевіч

## ПАСЛЯ КАНІКУЛ

*Ізноў гамонка поўніць класы,*
*Як вулей, школа ўся гудзе.*
*Пра лета слаўнае расказы*
*Дзятва, сабраўшыся, вядзе:*

*Хто — пра паходы ў захапленні,*
*Пра сотні ўцех і розных спраў,*
*А хто — пра песні і легенды,*
*Што ў родным краі назбіраў.*

*Хто бераг рэчкі ўспамінае,*
*Хто — мора ласкавую шыр,*
*А хто гербарый вымае —*
*Дарунак школе ад душы.*

*Ва ўсіх і радасць, і заслуга:*
*Цудоўна лета правялі.*
*Найлепш жа той,*
*Хто з поля, з луга*
*Прынёс у жменях... мазалі.*

# ЧАКАЕ НАС ШКОЛА

**Пусцеюць палі. Знікае з краявідаў залатое збожжа, на лугах пахне атавай, а ночы, ды і дні, робяцца ўсё халаднейшыя. Усё гэта сведчыць аб канцы цудоўнага, каляровага лета і аб надыходзе, хоць залатой у нас і прыгожай, і багатай, а ўсё ж восені. А разам з ёй кліча нас званок у школу, да кніжак, да ведаў, да вучобы.**

**Пачынаем чарговы школьны год. Новыя падручнікі пахнуць яшчэ свежай друкарскай фарбай. Колькі ў іх усяго новага, колькі цікавых старонак!**

**Прыемна ў адсвежанай школе сустрэцца са святочна ў першы дзень апранутымі, пасталеўшымі, падросшымі сябрамі. Многіх не бачылі ўсё лета. Колькі цікавых расказаў, новых знаёмстваў!**

**А перад намі — вучоба! Сустракаемся са старымі і новымі настаўнікамі, больш дарослыя і больш сур'ёзныя, усе з добрым намерам як найлепш скончыць чарговы клас, каб мець шырокі выбар у далейшым жыцці, каб магчы пазнаць самога сябе — свае зацікаўленні, свае здольнасці, знайсці самога сябе ў будучыні.**

**Новых пяцёрак жадае ўсім чытачам „Зорка“!**



**Сцэна з п'есы Валянціна Зуба „Не на тым коніку“ ў выкананні школьнага тэатральнага калектыву з Махнатага.**

**Фота Я. Чэрнякевіч.**

**Алесь Пальчэўскі**

## ВАСЬКА-ЗЛОДЗЕЙ

На выхадныя дні Марат запрасіў Аркадзя, свайго сябра, у госці. Абодва яны вучыліся на сталяроў.

— Рэчка блізка, лес побач. Аўтобус аж у Мрочкі ходзіць. А язды тае гадзіна якая, — падахвочваў Марат.

Аркадзь жыў у горадзе. Пабыць дзень, другі на беразе рэчкі або ў цяністым лесе, — каго не прывабіць такое? І Аркадзь згадзіўся.

У пятніцу надвячоркам Маратавы бацькі гасцінна сустракалі хлопцаў.

Вячэраючы, сябры дамовіліся заўтра раненька схадзіць на рыбу. Раніцай Марат уставаць паленаваўся, і Аркадзь пайшоў адзін.

— Толькі не бўся доўга. Снеданне ў нас рана. Сам бачыш, сенакосная пара стаіць, — напомніла Маратава маці госцю.

Але як ні стараўся Аркадзь, усё ж спазніўся на снеданне. Ні бацькоў, ні Косцю — малодшага Маратавага брата — ён ужо не застаў.

— Ты што, на рэчку паспеў схадзіць? — здзівіўся Марат, соладка пацягваючыся на ложку.

— Схадзіў і рыбкі свежай прынёс на абед. Верхаводкі, праўда, але пара дзесяткаў будзе, — з гонарам адказаў Аркадзь. — Бралася вельмі добра.

Марат засмяяўся:

— Хваліся!

— Ідзі паглядзі, ляжыць на лавачцы ля ганку.

Але Марат і не думаў уставаць. Тады Аркадзь, каб пераканаць сябра, выйшаў сам узяць свой улоў. На ганку стаяла вуда, а рыбы не было. „Куды яна магла падзецца? — здзіўлена пазіраў вакол Аркадзь. — Няўжо хто для жарту схаваў?“

Паблізу мітусілася чародка курэй з галагуцкім пеўнем. Яны нешта дзяўблі. Аркадзь падышоў бліжэй і ўбачыў падзяўбаную рыбку.

— Ну, адну ты мог узяць, дзве, няхай тры, а дзе ж астатнія? — пытаў ён у пеўня, хоць і ведаў, што адказу не пачуе.

Марат, не дачакаўшыся сябра, выйшаў на ганак.

— Ну, паказвай рыбу. Дзе яна?

— Ды вось сам шукаю. Адну

**(Працяг на стар. 10)**

**Алена Мімрык**
**Дзіяна Энпіна**

## ТАМ, ДЗЕ ЦЯЧЭ РАКА КОНГА



**Працяг (7).**

### У ВЁСКУ ДА БАБУЛІ

У дзверы ціхенька пастукалі.

— Камарад доктар Валеры, мая бабуля прыслала вам паклон і невялікі падарунак! — пачуўся голас.

Валерый Васільевіч адчыніў дзверы і зажмурыўся ад яркага сонца, выняў з кішэні цёмныя акуляры і толькі тады змог разгледзець Тамба-Тамба, які стаяў з вялікай эмаліраванай міскай, поўнай гародніны, і трымаў у роце нейкую зялёную галінку.

— Добрай раніцы, Тамба-Тамба! Што гэта ў цябе ў роце? — пацікавіўся Валерый Васільевіч. — І што ты паставіў каля дзвярэй нашага дома?

— Добрай раніцы, камарад Валерый Васільевіч! У роце я трымаю галінку ачышчальнага дрэва. Калі трэш ёю зубы, яны становяцца белымі і ніколі не баляць. А прынёс я вам када — падарунак ад бабулі. Яна сказала паставіць каля вашага дома.

— Прывітанне, Тамба-Тамба! — з-за дзвярэй паказалася Воля. — Чаму табе не спіцца ў нядзелю? Ой, што гэта?! — усклікнула яна, убачыўшы ў місцы вялікі пучок пляскатай, падобнай на асаку травы, тры вялікія клубні, якія нагадвалі бульбу, толькі памерамі былі з невялікую дыню, і тры зялёныя, цяжкія на выгляд плады з вострымі шыпамі.

— Гэта цытранэль, карасоль і бататы, — хуценька адказаў Тамба-Тамба.

— Цытранэль называецца так ад цытрона — лімона, — прамовіў доктар, беручы ў рукі пучок травы і ўважліва разглядаючы. Сапраўды, пахне лімонам.

— Бабуля казала — гэта трава супакойвае чалавека. Яе трэба заварваць у эмаліраваным кубку і настой піць тры разы на дзень. Камарад доктар, піце траўку, настой яе зробіць вас шчаслівым!

— Ты ўпэўнены ў гэтым? — усміхнуўся доктар.

— Канешне. Чалавек бывае

**(Працяг на стар. 10)**

# СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

## ПЕСЕНЬКА ПРА БУСЛА

Словы А. Вярцінскага
Музыка І. Лучанка

*Луг зялёны неабсяжны...*
*А ў тым лузе ходзіць важны,*
*Ходзіць, бродзіць, ходзіць,*
*бродзіць бусел,*

*Ходзіць бусел цэлы дзень.*
*Гэты бусел асаблівы.*
*Толькі з намі ён шчаслівы.*
*Ён за намі ходзіць, ходзіць,*
*Ён за намі ходзіць, ходзіць,*
*Ходзіць нібы цень.*

*Ён і лётае, і кружыць,*
*Ён нас любіць, з намі дружыць.*
*І як толькі прыйдзем, толькі прыйдзем,*
*Толькі прыйдзем мы на луг,*
*Ён спявае і кляхоча,*
*Танцаваць ён з намі хоча...*
*Ён наш самы, самы добры,*
*Ён наш самы, самы добры,*
*Самы добры друг.*

*Луг зялёны неабсяжны...*
*А ў тым лузе ходзіць важны,*
*Ходзіць, бродзіць, ходзіць,*
*бродзіць бусел,*
*Ходзіць бусел цэлы дзень.*
*Гэты бусел асаблівы.*
*Толькі з намі ён шчаслівы.*
*Бусел белы, бусел светлы,*
*Бусел белы, бусел светлы,*
*Светлы як прамень.*



# НІЎКА



*

Парожняя бочка звініць, а поўная маўчыць.

*

Абы балота, чэрці будуць.

*

Капай яму другому. Не лянуйся і капай! Капай у поце чала свайго! Памятай: не прападзе твая цяжкая праца — тая яма калісьці і табе самому спатрэбіцца.

### ЧАМУ?

Раніцай праз акно лез мужчына. Гэта ўбачыў міліцыянер.

— Што тут робіце, грамадзянін?
— Вяртаюся дамоў!
— А чаму праз акно?
— У дзвярах жонка стаіць.

### ПЕРАСЦЯРОГА

Возчык: — Ці пані мае ўстаўленыя зубы?
Дама (абураная): — А вам якая справа да маіх зубоў?
Возчык: — Я не з цікаўнасці. Але на нашых дарогах столькі няроўнасцей, што калі зубы сядзяць слаба, дык лепш іх схаваць у сумачку.



**Замест сэрца насіў камень за пазухай.**

Барыс Рабенькі

## МЯДОВЫ МЕСЯЦ

Усё жыццё я падганяла час: хутчэй, хутчэй, хутчэй! Хутчэй атрымаць атэстат, хутчэй зарабляць грошы, хутчэй трапіць, хутчэй знайсці мужа або хоць бы сябе.

Вось-вось жыццё пачнецца: тэатры, канцэрты, сустрэчы з цікавымі людзьмі ў клубах, загсах.

Але паступіла на фізмат, засела за гістмат і сапрамат. Галавы не падняць! Скончыла, уздыхнула свабодна: без ведаў але з дыпломам. Выйшла на работу — паслалі на бульбу, а там хлопец падвярнуўся. Інтэлігент, калі меркаваць па тым, як ён трымае рыдлёўку. Нічога не ўмее, затое ўсё ведае. Вочы прагныя. Амаль нежанаты. Наогул, адзін шанц з тысячы.

У раманах у герояў мядовы месяц, а ў нас тры дні па сямейных абставінах.

— Вось шчаслівая, — разважаю, — Цяпер разам узбагачацца будзем. (Не падумайце дрэнна). Духоўна. Ён у мяне музейны работнік. Спецыяліст па выкапнёвых рыбах. Нядаўна вугра вэнджанага прынёс...

Раптам сын нарадзіўся. Які там тэатр. Раніцай на работу ледзь прыпаўзеш, за восем гадзін сіл набярэшся і зноў дадому, па бясконцых клопатаў. Што я рабіла б без работы? Даўно б звалілася.

— Нічога, — думаю. — З дзецьмі цяжка спачатку. На пенсіі будзе лягчэй.

Не, духоўнае жыццё не закінула. Перад сачыненнем урывак з хрэстаматыі перагортвала, каб прыгадаць галоўных герояў.

Сын школу скончыў, ажаніўся, а ў мяне толькі жыццё пачынаецца. Цяпер цэлы год адпачынку. Пакуль унук не народзіцца. Хоць у кругасветку пускайся, на Паўночны полюс ці ў Паўднёвы, паглядзець ці ёсць жыццё там, або таксама няма.

Маладыя ў Крым паляцелі, а ў нас пачаўся мядовы месяц. З усімі выцякаючымі адсюль вынікамі. З Крыма вярнуліся ўтраіх. А мы год адпачываць думалі. Наша моладзь абвяргае любыя прагнозы.

Цяпер я бабуля. Але я задаволена жыццём. Ёсць што ўспомніць. У мяне, як ва ўсіх прыстойных людзей, быў мядовы месяц. Мы ўставалі а дзесятай гадзіне, пілі адвар шыпшыны, елі дыету нумар пяць, у ціхае бязветранае надвор'е гулялі па набярэжнай, а прыйшоўшы дадому, мералі ціск.

Гэта быў лепшы месяц у маім жыцці. Натуральны мядовы месяц. З усімі выцякаючымі адсюль вынікамі.

### НЕ ПЕРАШКАДЖАЕ

Доктар: — Мой дружа, вас трэба аперыраваць.
— Аперыраваць! Ніколі! Лепш памерці!
— Адно другому не перашкаджае...

*

Што вы можаце расказаць аб вялікіх хіміках XVII стагоддзя?
— Яны ўсе памерлі...



Вось як мы з жонкай добра размеркавалі свой вольны час.
Мал. М. Гурло

# КУРЪЁЗЫ

### „ЗА ТУЮ СІЛУ..."

**„Чыкілдыкнем (г. зн., вып'ем) за тую сілу, якая тазік утрымала", — такі тост ўзносяць мужчыны пры выпіўцы ў некаторых мясцовасцях Украіны. Тост гэты выводзіцца з незвычайнага выпадку, які здарыўся аднойчы над Чорным морам. А было гэта так.**

**Раніцай, калі людзі толькі снедаюць і над морам яшчэ пуста, малады доўгавалосы чалавек, быццам жанчына, забыў узяць трусікі і, карыстаючыся бязлюддзем, пайшоў купацца. Міліцыянерка перад службай у спякотны дзень таксама вырашыла пакупацца. Але і яна забыла ўзяць купальнік. Агледзелася вакол, нікога няма, убачыла толькі доўгавалосага ў моры, падумала, што гэта жанчына. Хутка распранулася і нырнула ў хвалі.**

**Выходзіць з вады прыйшлося адначасова. Доўгавалосы ўбачыў перад сабою надта ж прыгожую раздзетую жанчыну. Аж млеўка яму стала. Схапіў тазік (пасудзіна падобная да міскі) і прыкрыўся ім.**

**Тут жа неспакойна агледзелася прыгажуня. Убачыла, што гэта мужчына, схапіла рэвальвер і скамандавала: „Адвярніся! Рукі ўверх"! — і стала хутка апранацца. Доўгавалосы выканаў загад, выпусціў з рук тазік, але тазік на зямлю не ўпаў.**

**Міхась Сваяк**




**Часам і маўчанне выклікае рэха.**